# ПРАВАСЛАЎНАЯ ДУМКА



НЕЗАЛЕЖНЫ ЧАСОПІС ПРАВАСЛАЎНАЕ МОЛАДЗІ

№2

Валяньціна Аксак.

+++

Чырвоны ходнік пасярод сьвятлынь-пакою
Расьцяў яго раўнюсенька на часьці.
Адкуты мосенж на мае запясьці,
А на яе — Хрыстовае прычасьце.

Чырвоны ходнік пасярод сьвятлынь-пакою,
Хадзіць па ім дазволена абраным.
Атрута змовы на маім каханьні,
А на яе — Хрыстовае прызваньне.

Чырвоны ходнік пасярод сьвятлынь-пакою
Лёг ад мяне і да яе памкнуўся.
Ад мае помсты болей не ратуйся,
І ад яе даўно ўжо Бог зьлякнуўся.

+++

Паўз могілкі мая дарога.
Штодня - заходам і сьвітаньнем
Твой крыж вітаю адвітальна.
Даруй-даруй! Усё — ад Бога.

Рука ў жагнаньні стыне строга
Над месцам нашага расстаньня.
А наўздагон — тваё маўчаньне.
Не наракай! Усё — ад Бога.

Самотных дзён у нас нямнога.
Ужо ўзыходзіць знак астральны
Над месцам нашага спатканьня.
Прымі-прымі! Мяне — ад Бога.

## НАВІНЫ ЕПАРХІІ

Прыгожа адраджаецца старажытны праваслаўны Полацкі манастыр. Новае дыханьне жыцьця з асаблівай сілаю адчувалася ў час сьвята прападобнай Эфрасіньні ігуменьні Полацкай, што адзначалася 5 чэрвеня. Яркі сонечны дзень, залатыя крыжы на белых купалах Уздзьвіжанскага сабору узьняліся з руін і рыштаваньняў; невялікі, ужо адрэстаўраваны Трапезны храм і цудоўная стромкая прыгажуня — Спаса-Эфрасінеўская царкоўка, якая з XII стагоддзя да нашых дзён захавала прыгажосьць надзвычайнай чысьціні і сьведчаньне нязломнасьці веры і глыбокай духоўнасьці нашых продкаў. У ёй адбывалася сьвяточная Літургія, якую правіў Мітрапаліт Менскі і Беларускі Філарэт. Праўдзей казаць, яна ішла на дворы, ля Храму, бо народу было вельмі багата. Прыехала і шмат навакольных сьвятароў. Дыяканы чыталі ектаніі ля Храму, дзе стаяў вялікі абраз сьвятой Эфрасіньні, гарэлі сотні сьвечак. Народ, як і стагоддзі таму, прыйшоў да сваёй маці Эфрасіньні з надзеяй і бедамі, зь вялікім спадзяваньнем на ўзнаўленьне яе абіцелі. Таму, мусіць, і Мітрапаліта сустрэлі так надзвычай цёпла і шчыра: ад самой Спаса-Эфрасінеўскай царквы праз увесь двор, ажно да брамы манастыра, выслалі ходнік зь кветак, усклаўшы пасярэдзіне яго шырокую стужку з ружовых піёній. Кветкі несьлі ўсе. Кветкамі і хлебам з сольлю на беларускім ручніку сустрэў народ свайго архіпастыра ...

Сьвята здымалі кінакамеры, а моладзь нават прыладзілася высока на рыштаваньнях. Уладыка Філарэт цудоўна чытаў старажытны акафіст у гонар сьв. ігуменьні Эфрасіньні. Зь вялікай верай і цеплынёй сьпяваў невялічкі народны хор. Уладыка і народ з глыбокай пашанай прыкладаліся да сьвятых мошчаў прападобнай. І дзіўна гучалі старажытныя царкоўныя сьпевы "Радуйся, Еуфрасініе, невесто Христова всечестная"...

... вазьму я Краіну сінюю?..
ці шчасьце шляхотна-слыннае?..
запытваю Эфрасінію:
якою пайсьці пуцявінаю?..

\+

... у манаскім адзеньні
істота нябёсная ...
хто спытае:
ці будзеш ты у сэрцы
шчасьлівая ?..
у тваім разьвітаньні
сьцяжынаю хроснаю
Эфрасіньня-князёўна
вяртаецца у Крывію ...

\+

Радасьць духоўная, што пачалася у Полацку, шырокай плынью разьлілася у Менску у дзень сьвята "Сабору сьвятых зямлі беларускай", якое адзначалася сёлета 9 ліпеня. /З 1984 г., па Багаславеньню Патрыярха Пімена, гэтае сьвята адзначаецца ва усіх Праваслаўных храмах сьвету на трэцюю нядзелю пасьля Тройцы./ У Менскім Катэдральным саборы адбылася урачыстая усенашная, якую правіў Уладыка Філарэт. Саборныя сьвятары сьпевамі праслаўлялі і маліліся да угоднікаў Божых Сьвяціцеляў Міны, Дыянісія і Сімяона біскупаў Полацкіх, Кірылы і Лаўрэнцыя біскупаў Тураўскіх, вялікага князя Кіеўскага Расьціслава, пакутнікаў Макарыя ігумена Пінскага, Гаўрыіла Беластоцкага, Апанаса ігумена Берасьцейскага, прападобных Марціна Тураўскага, Елісія Лаўрышскага, Эфрасіньні ігуменьні Полацкай, сьвятых праведных Сафіі княжны Слуцкай, Іуліаніі княжны Альшанскай. Маліліся і да тых сьвятых, імёны якіх не захаваліся, але духоўная спадчына жыве у народзе. Мітрапаліт, сьвятары, парафіяне богагавейна прыкладаліся да сьвятых мошчаў Сафіі княжны Слуцкай, што захоўваецца у Саборы, да старажытнай цудатворнай іконы Менскай Маці Божай. Пранікнёна сьпяваў архірэйскі хор. У дзень Сьвята адбылася таксама урачыстая Літургія, якая упершыню завершылася вялікай працэсіяй вакол Сабору у гонар беларускіх сьвятых з малітвай за наш край і народ. Натхнёна, з уздымам сьпяваў народ: "Сьвятыя зямлі беларускай, маліце Бога аб нас" і "Спасі, Госпадзе, край наш Беларускі". Зьзяла сонца, радасна гучалі званы, пераліваліся фарбамі ікона з выяваю усіх сьвятых зямлі Беларускай.

І як сьвяточны падарунак прагучала паведамленьне Мітрапаліта аб тым, што рашэньнем Сьвяшчэннага Сіноду па Багаславеньню Сьвяцейшага Патрыярха Пімена на Беларусі узноўлены тры старажытныя біскупскія катэдры: Полацкая і Віцебская, Магілёўская і Мсьціслаўская, Пінская і Берасьцейская. Гэта вялікая царкоўная і гістарычная падзея, бо узноўлены старажытныя духоўныя цэнтры нашага народу, што дае яму магчымасьць шырэй карыстацца праз біскупаў апостальскае Багаславеньне і пропаведзі, арганізуе само царкоўнае жыцьцё краю, дае мясцовым сьвятарам бацькоўскае апекаваньне і навучаньне біскупаў. /Раней усё гэта мусіў спаўняць адзін Мітрапаліт Менскі і Беларускі./

Першым быў пастаўлены біскуп на Полацкую катэдру. І не дзіва, бо гэта адна са старажытнейшых катэдраў Русі. Яе біскупы Міна, Дыянісій, Сімяон здаўна былі залічаны да ліку Праваслаўных сьвятых. Некалькі стагодзьдзяў Полацак быў фарпостам Праваслаўя на Захадзе, яго катэдра доўгі час нават мела прывілеі у Вялікім княстве Літоўскім на выбарнасьць біскупа і ягоную

паўную незалежнасьць. Полацак быў вядомым духоўным і культурным цэнтрам. Бібліятэкі Сафійскага Сабору і Іаана-Прадцечанскага манастыра славіліся сваімі кніжнымі скарбамі. Духоўна-асьветніцкая дзейнасьць пачалася тут яшчэ з часоў Эфрасіньні Полацкай, якая ня толькі заснавала ў XII ст. першы жаночы манастыр, але і арганізавала ў ім першую школу для дзяўчынак па перапісцы кніг і рукатворству. Вялікімі славянскімі кніжнымі скарбамі Полацку мог карыстацца і Ф.Скарына, асабліва ў час сваёй выдавецкай дзейнасьці ў Вільні, бо тады Мітрапалітам Кіеўскім і Літоўскім з рэзідэнцыяй у Вільні быў Іосіф III, былы сьвятар, а пасьля і біскуп Полацкі.

Пастаўленьне /хіратонія/ біскупа на Полацкую катэдру адбылася ў Жыровіцкім манастыры ў нядзелю 23 ліпеня. Напярэдадні ў Менскім Катэдральным Саборы, пасьля ўрачыстай усяношнай, адбыўся чын "нарачэньня ў біскупа". І нарачэньне, і хіратонію правілі Патрыярх Антыяхійскі і ўсяго Ўсходу Ігнаці ІУ, Мітрапаліт Менскі і Беларускі Філарэт, архібіскуп Уладзімірскі і Суздальскі Валянцін, архібіскуп Магілёўскі і Мсьціслаўскі Максім, біскуп Аўстралійскі і Новазяландскі Гаўрыіл, біскуп Філіпапольскі Нахон, біскуп Пінскі і Берасьцейскі Канстаньцін. Прыезд у Менск і ўдзел у хіратоніі Антыяхійскага Патрыярха — вялікая падзея ў царкоўным жыцьці Беларусі, бо Антыяхійская Апостальская Царква — адна з першахрысьціянскіх, заснаваных самімі Апосталамі.

У час сваёй прамовы на нарачэньні будучы біскуп ігумен Дзьмітры /Драздоў/ спыніўся на вялікай адказнасьці біскупа, на адчуваньні сваёй неадпаведнасьці, бо служэньне гэтае патрабуе вялікага сьмірэньня, стрыманасьці, цноты, спраў любові і навучэньня людзей Веры Хрыстовай. Казаў, што адзіная надзея ягоная на літасьць Боскую і дапамогу, бо, па слову апостала Паўлы, "сіла наша ў немачы праўдзіцца". Што ён спадзяецца на дапамогу Богамаці, як і заўсёды ў сваім жыцьці. Сказаў, што рады служыць у Полацку, бо сам — зь Беларусі, гадаваўся ў сям'і, дзе асабліва шанавалі Сьвятую Эфрасіньню Полацкую, што шлях у сьвятары пачаў па Багаславеньню Мітрапаліта Антонія ў Жыровіцкім манастыры, скончыў Маскоўскую семінарыю і Духоўную акадэмію, пасьля прыняў манаства і некалькі год нёс рознастайны послух у Тройца-Сергіявай Лаўры. Адзначыў знамянальнасьць для яго, што рашэньне Сьв. Сіноду абраць яго на біскупства адбылося напярэдадні дня Беларускіх Сьвятых. Выказаў вялікую ўдзячнасьць і радасьць з таго, што ў хіратоніі бярэ ўдзел Усяленскі Патрыярх Ігнаці ІУ. Закончыў прамову словамі веры і надзеі на дапамогу Маці Божай, Беларускіх і ўсіх Сьвятых у будучым сваім архірэйскім служэньні.

На Магілёўскую і Мсьціслаўскую катэдру пераведзены архібіскуп Максім з Тульскай эпархіі, біскупам Пінскім і Берасьцейскім стаўся ўладыка Канстаньцін, былы вікарны біскуп Пінскі.

+++

## СЬПЕВЫ

Мнагалецьце Жыровіцкае /Пінск, 1929./



Эксапасьціпарый 213.
Жыровіцкі напеў.

Плоти-ю ус-нув яко мертв царю и господи тридневен воскреси е-си

А- дама воздвиг от тли, и у-праздний смерть пасха нетления мира спасе-ни-е

## У НАС У ГАСЬЦЯХ

Сёньня ў нас у гасьцях неафіцыйны Праваслаўны часопіс беларускае моладзі з Польшчы "Ф О С".

Прапануем артыкул Васіля, Мітрапаліта Варшаўскага і ўсёй Польшчы, надрукаваны ў I нумары за 1989 г.

### Х Т О   Т Ы ?

"Мой родны кут,
як ты мне мілы..."

Кожнаму чалавеку даў Бог "родны кут". Таму ён родны, што там ён нарадзіўся, там ён упершыню ўчуў роднае слова ад свае мамы: "сыночак", "дочанька" ... "Мама" — гэта, бадай, першае слова, якое ён выгаварыў. Таму гэта роднае, што гэтае слова ён выссаў з грудзей сваёй мамы з малаком, якое давала яму сілы жыцьця. Першы крок, першы сьлядок, пакінуты на роднай сьцежацы, па якой хадзіла яго мама, тата, браты, сястронкі, застаецца неяк незразумела, глыбока ў душы на ўсё жыцьцё, да сьмерці. Кожная птушачка па-свойму шчабеча, як кожны чалавек па-свойму гаворыць. Калі іх многа, радасны і вясёлы іх шчэбат. Калі-ж іх мала, або адна, неяк вельмі сумна льецца яе песьня. Здаецца, што яна плача. Так бывае ў жыцьці чалавека. Радасна, прывольна, калі нас многа ў родным сваім куце. Даў Бог людзям мову, месца — родную зямельку, па якой яны маюць хадзіць, зь якой, бы з рук маці, ваду-шчасьце піць, бы з рук маці, хлеб атрымоўваць, а пасьля — прытуліць да сябе назаўсёды. Добра чалавеку, калі ён жыў тым, чым жыла яго маці, не забыў ні свае роднае мовы, ні свае зямелькі, свайго роднага кута. "Скажы мне тваё імя, а скажу табе, хто ты". Вось аб тым, "хто ты", хачу некалькі слоў сказаць.

Беларусь — гэта ня штучная назва, гэта не пустое слова, а гэта жыцьцё, якое напісана напрацягу вякоў рукою Тварца. Аб слаўным мінулым Беларусі помняць пасівелыя вякамі курганы, легендарныя замкі, нашы родныя храмы Божыя, пажаўцелыя помнікі пісьменнасьці. Векавыя дубы пяюць аб гераізме нашых продкаў, калі ім трэба было аддаць сваё жыцьцё за родную старонку ...

Пявучая беларуская мова, яна быццам народная песьня, мілагучная, як ціхія воды "рэчачак крутых". Народная песьня перажыла вякі. У ёй, як у люстэрку, адбіваецца гора і радасьць, прыгнёт, веліч мінулага, нашых слаўных продкаў. Царква на Каложы ў Гародні /XI ст./, Жыровіцкі манастыр, Цудатворная Ікона Божай Маці Жыровіцкай, цэрквы ў Сынковічах, Мало Мажайкаве, Супрасльскі Багавешчанскі Сабор гавораць нам аб мінулым. І Грунвальд амаль 570 гадоў таму не абышоўся без беларуса. Там нашыя продкі змагаліся з ворагам за шчасьце і мір сваіх сяброўславян, там чуўся баявы кліч на роднай мове. Дзе беларус ня быў, куды ён ні хадзіў! Дзе ён не пакінуў сьляда па сабе, цяжкай крывавай працы! Ён дайшоў аж да слаўнага Хоціма ў 1621 годзе. Тым праўдзівым, верным сынам сваёй зямлі вечная памяць!

Але вось тым, хто выракліся свайго, забылі сваю мову, як жа цяжка перабачыць! Таму Хадкевічу, які выйшоў зь Беларусі, з роднае яму калісьці Гародзецкае, Заблужаўскае, Кнышынскае, Супрасльскае зямлі, у якім плыла ў жылах такая-ж кроў, якая плыве дагэтуль у нашых жылах. Колькі іх прайшло ў мінулым, не бароніўшых свайго народу! Патоцкія, Пашкевічы, Радзівілы, Тышкевічы, Пацы, Хадкевічы ды інш. -- усё гэта ахвяры, злоўленыя на вудачку, з прыманкай гонару, славы. Іх няма, але народ застаўся, які жыў, жыве і жыць будзе, пакуль не забудзецца, што ён завецца -- беларускім. Нажаль, беларускі народ зажыў многа гора. Вякамі ён цярпеў. Яго таўклі з усіх бакоў. А ён маўчаў, зацчаміўшы зубы, ды як разьюшаны зьвер -- то бараніўся, то адыходзіў, сумны і гаротны. Сьляза і пот яшчэ больш яго парадніілі з роднай зямелькай. Пасьля ён пачынае называць сябе "тутэйшым". Ён зразумеў, што так мусіў зрабіць, каб застацца на сваёй зямлі, каб сьпяваць сваю песьню, гутарыць па-свойму, над калыскай шаптаць ціхенька, як гэта было ад вякоў -- "сыночак", "дачанька", каб чуць салодкае ў адказ -- "мама", "тата", каб у вясёлых вочках свайго дзіцяці ўбачыць сваю родную бацькаўшчыну -- Беларусь. Беларус -- ён таксама змагар за родныя справы. За сваю Царкву, за веру бацькоў. Ён вытрымаў на сваіх плячах увесь цяжар, калі лютавала на яго зямлі накінутая вунія. Але Беларусы ўмелі бараніць сваю веру. Народ захаваў праўдзівую веру, што галавой Царквы ёсьць Іісус Хрыстос, а ня Рымскі папа. Больш як 200 гадоў ён цярпеў на сваёй роднай зямельцы зьдзекі. Аднак праваслаўны беларус верыў, што ён ня зьгіне, што "загляне сонца і ў яго ваконца".

Заглянем у гісторыю Беларусі. Калі паўставала Вялікае Княства Літоўскае, старабеларуская мова сталася дзяржаўнай, г. зн. што ўсе граматы, дзяржаўнае пісьмаводства вяліся на беларускай мове, аб чым сьведчаць "Літоўскія летапісы", у якіх апісваюцца падзеі з 1348 г. па 1548, "Судзебнік" караля Казіміра Ягелоньчыка з 1468 г., выданы ў Вільні на беларускай мове, Літоўскі Статут з 1529-1566, друкаваны з 1588 г. Францыск Скарына з Полацку ў 1504 г. вучыцца ў Кракаве, пасьля ў 1512 г. у Падуі, дзе прысудзілі яму вучоную ступень доктара медыцынскіх навук. Ён імкнецца пашыраць асьвету ў родным народзе. У цяжкіх варунках ён выдае друкам у Чэхіі ў 1517 г. "Псалтырь", а пасьля 22 кнігі Бібліі /1517, 1519 г.г./ з прадмовамі на роднай мове. Вось як ён пісаў аб тым, што і цяпер актуальна: "Понеже от прирождения звери, ходящие в пустыни, знают ямы своя; птицы, летающие по воздуху, ведают гнезда своя, рыбы, плывающие по морю и реках, чуют виры своя, пчёлы и тым подобныя боронят ульев своих -- також и люди игде зародилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку мают". А ці ты маеш ласку да свайго народу, мейсца?.. Існуючыя з даўніх часоў на Беларусі "Брацтвы" уключаліся ў барацьбу за родную справу, за сваю веру, за мову, за нацыянальнае існаваньне. Каб спыніць варожы паход езуітаў, які ажыцьцяўляўся праз іхнія калегіі і школы, брацтвы стварылі свае школы, якіх мэтай была барацьба супроць усяго чужо-

га беларускай душы. Не зьгіналі свае галовы беларусы. Запісвалі многа зь іх залатымі буквамі ў гісторыі свайго народу свае імёны ў барацьбе за свой нацыянальны быт. Сваё жыцьцё аддаў за сваю веру і народ Сьв. Апанас Берасьцейскі. Ці ведаеш, што да 1697 г. ускрось гаварылі, пісалі, вучылі ў школах, пісалі граматы і судзебныя ўстановы на беларускай мове? Калі-ж цяпер цябе пыталі, хто ты, адказваў: "тутэйшы". "Не хачу беларускай мовы ў школе, бо яна... простая". Гутарыць баішся. Ці можа табе стала стыдна прызнавацца да самога сябе? Вось паглянь кругом сябе, паглянь на сябе самога. Дрэва расьце з кораньняў. Гэтыя кораньні — твае бацькі, дзяды, прадзеды, твае продкі, якія сталіся ўжо зямлёю. Ты вырас зь іх. Любі свой "родны кут", сваю родную мову, сваю нацыю, сваю Праваслаўную веру, якою жылі твае продкі. Адзін вялікі пясьняр беларускі так пісаў: "Дык-жа знайце, чаго-б я хацеў, аб чым думачкі толькі мае: каб мой люд маю песьню запеў і пазнаў, аб чым песьня пяе!" /Купала/.

Сьпявай сваю песьню, беларускі народзе! Глядзі, як ветліва усьміхаюцца да цябе красачкі, галубыя вочкі льну, валошкі ў сьпелым калосьсі збожжа! Як радасна шчабеча птушачка, родны твой салавейчык, які цешыў сваім голасам тваіх тату, маму, браточкаў, сястронак. Ён, сьпяваючы, хоча табе сказаць, каб ты не забыў, "хто ты". Дзе-ж вы, мае родныя, забыўшыя мяне, пакінуўшыя сваю Радзіму, свой "родны кут", забыўшыя сваю родную мову? — пытае наша зязюленька, плачучы "ку-ку" — як быццам адзінокая маці над магілай свайго, пакінуўшага яе сына ...

Паглянь вакол сябе. Пачытай гісторыю твайго народу. Гавары так, як вучыла цябе маці. Калі-ж ты ўжо дзесь жывеш, а прыляціш, быццам птушачка, у свой родны куточак, дык сьпявай так, каб мы пазналі цябе, што ты БЕЛАРУС!

Біскуп Васіль /цяпер Мітрапаліт Варшаўскі і ўсёй Польшчы/

---

## НАС ІНФАРМУЮЦЬ

Пасьля Армянскай трагедыі дапамагчы дагледзець цяжка параненых прыехала заснавальніца каталіцкага ордэна міласэрднасьці Маці Тэрэза. Зь ёю прыехалі манашкі, якія і сёньня працуюць у Арменіі. Праз паўгоду ад пачатку працы ў шпіталях манашкі размаўляюць з хворымі на іх роднай мове.

+++

Пра Гомель цяпер кажуць: другое Іванава, — з-за сітуацыі, якая склалася вакол праваслаўнага Катэдральнага сабору. Калі паўстала пытаньне вярнуць яго народу, партыйныя бонзы далі загад перабудаваць, перапланаваць і зрабіць канцэртовую залу. Вядомыя дзеячы беларускай культуры — сярод іх М.Савіцкі, М.Танк, Л.Шчамялёў, В.Сёмуха і інш. — падпісалі зварот да З'езду Народных дэпутатаў СССР з патрабаваньнем вярнуць сабор вернікам. Васіль Быкаў перадаў гэты ліст у прэзідыўм З'езду. Людзі чакаюць адказу ...

+++

Вядомая паэтка Данута Бічэль-Загнетава арганізуе Хрысьціянскі жаночы саюз на Беларусі. Жанчыны ўсіх узростаў, з Богам у сэрцы, якія пажадаюць уключыцца ў Хрысьціянскі рух, могуць зьвяртацца на адрас: Гродна, вул. Каліноўскага, д. 7, кв. 4; тэл. хатні 44-01-27, рабочы 45-22-54.

+++

У Менску сярод вернікаў вялікую зацікаўленасьць выклікала з'яўленьне Новага Запавету на беларускай мове, які выдалі ў Таронце /Канада/ хрысьціяне-эвангелісты. Уражвае вялікая колькасьць экзэмпляраў гэтага выданьня на руках.

+++

У Менску знайшоуся чалавек, які захацеў сабраць праваслаўных, каталікоў і пратэстантаў разам для сумеснага набажэнства на беларускай мове. Гэты чалавек — пратэстанцкі сьвятар Эрнст Канстаньцінавіч Сабіла. Наш карэспандэнт пабываў у яго, меў гутарку, удзельнічаў у набажэнстве, якое вялося па абрадзе, блізкім да хрысьціян-эвангелістаў. Адназначна цяжка сказаць аб уражаньнях, але — гэта цікава, і мы паведамляем, што ўсе жадаючыя могуць зьвяртацца на адрас: Менск, вул. Заслаўская, д. 13, кв. 14; тэл. 23-21-18.

+++

Пры Менскім Катэдральным саборы існуе таварыства міласэрнасьці. Мы сустрэліся зь сябрам таварыства. Ён нам паведаміў, што таварыства налічвае звыш 40 чалавек, узрост — ад 17 да 80 гадоў; самыя розныя па адукацыі, іх яднае жаданьне дапамагчы ня толькі словам, але і працай. Сябры таварыства працуюць у інстытуце траўматалогіі і 4-й клінічнай бальніцы. Мыюць, перасьцілаюць хворых, нясуць ім Божае слова. На Вялікдзень кожнаму хвораму прынаднесьлі куліч у вышыванай шкарпетцы і фарбаванае яйка. Быў час, калі а. Ігар прыходзіў хрысьціць хворых па іх просьбе .... Мы запрашаем усіх нашых чытачоў далучыцца да гэтай Божай справы. Усе пытаньні аб уступленьні ў таварыства можна вырашыць з Аленай Аляксандраўнай Шылкінай, тэл. 34-08-85.

+++

Дзяржаўная бібліятэка імя У.І.Леніна вярнула Маскоўскай Духоўнай Акадэміі 52945 некалі забраных у яе кніг. Вырашаецца пытаньне і аб вяртаньні часткі рукапіснага фонду. Будуць вернутыя 30 тысяч тамоў і Оптінай пустыні — уся яе бібліятэка. Сёлета ў краіне ўзнавіліся 4 епархіяльныя вучылішчы, у якіх, натуральна, узьніклі праблемы з духоўнай літаратурай. Паколькі ў мінулым у кожным буйным горадзе была свая духоўная семінарыя з адпаведнай бібліятэкай, справядліва было-б усе гэтыя кніжныя зборы вярнуць Царкве.

+++

За апошнія гады ў СССР узноўлена болей 1700 прыходаў, адроджана 12 манастыроў. Дабраахвотнікі-рэстаўратары гатовыя на грамадскіх асновах дапамагчы кожнаму прыходу, манастыру, епархіі Рускай Праваслаўнай Царквы. Ёсьць рознарабочыя, ёсьць і кваліфікаваныя цесьляры, тынкоўшчыкі, людзі іншых спецыяльнасьцяў. У падзьвіжніцкай, бясплатнай працы яны бачуць свой патрыятычны, духоўны, а многія і рэлігійны абавязак. Зьвязацца з шэфскімі таварыствамі можна праз мясцовае аддзяленьне ВООПИК альбо зьвярнуцца да кіраўніка выяздных атрадаў МГО ВООПИК і члена Расійскага аб'яднаньня шэфскіх таварыстваў Георгия Валентиновича Кокунько /тэл. 298-43-20/, а таксама да члена шэфскай секцыі МГО ВООПИК Міхаіла Сяргеевіча Нікольскага /тэл. 475-19-75/. На тыя-ж адрасы трэба зьвяртацца прыхажанам, якія жадаюць папрацаваць на рэстаўрацыі царкоўных архітэктурных помнікаў. /Масква/.

+++

У дзень 100-годдзя зь дня нараджэньня вялікай рускай паэткі Анны Ахматавай у Нікола-Богаяўленскім саборы Ленінграда адбылася заўпакойная літургія. Чаму менавіта тут? Справа ў тым, што сабор быў пабудаваны маракамі і працаўнікамі Адміралцейскай верфі, а бацька Анны Ахматавай быў марскім афіцэрам. — Анна Андрэеўна, — расплавеў Леў Мікалаевіч Гумілёў, сын Ахматавай і Мікалая Гумілёва, — нягледзячы на ўсе нягоды, да канца жыцьця пранесла праз сваю творчасьць чысьціню праваслаўнай веры.

Як вядома, 1989 год па рашэньні ЮНЭСКА абвешчаны годам Ахматавай. Ва ўсім сьвеце людзі аддаюць даніну памяці рускай паэтцы.

+++

У сям'і сярэдніх школ ВНР -- неардынарнае папаўненьне. Гэта -- гімназія Эвангельска-Лютэранскай Царквы Венгрыі, аднавіць якую вырашана пасьля 40-гадовага перапынку. Як толькі абвясьцілі прыём, заяў паступіла ў чатыры разы болей, чым можа зьмясьціць навучэнцаў гэтая ўстанова. Прычым трэць жадаючых тут вучыцца — дзеці бацькоў н е лютэранскай веры.

+++

643E88th Street, New York, NY 10028.

Мы, члены Американского Общества Охраны Русских Памятников и Культуры, заботимся о судьбах 2-х недавно обратившиx наше внимание Храмов. Первый из них, Собор Покрова Пресвятой Богородицы в Севастополе, был превращён в 1962-ом году в спортивный зал. Ввиду того, что дети часто подвергались физическим травмам, спортзал заменили архивом. Собранные двадцаткой подписи включают две тысячи имён, выражая желание местного населения воссоздать его как действующий Храм. Второй Храм, Собор Святых Апостолов Петра и Павла в Гомеле, тоже закрыт с 1962-го года. Более 4000 подписей подтверждают желание людей открыть этот Храм. По нашему мнению, в эти дни перестройки и гласности, нужно особенно прислушиваться к голосу народа и вернуть эти Храмы подлинному, церковному служению.

Николай Охогин, Секретарь АООРПИК.

## ГОЛАС РЭДАКТАРА

Зьяўленьне І-га нумару "Праваслаўнай Думкі" і літаратурнага дадатку да яго выклікала шырокае зацікаўленьне ў нашай грамадскасьці і за мяжой. Нам вельмі прыемна, што людзі чакалі новы нумар выданьня, а мы мусілі выправіць памылкі, зрабіць часопіс больш інфармацыўным і разнастайным.

Будзём рады атрымаць Вашы заўвагі, прапановы, матэр'ялы праз людзей, якія распаўсюджваюць наша выданьне.

Дапамажы Вам Спадар!

Даруйце, калі ласка, шаноўны чытач, нашу памылку ў І-м нумары: на стар. 3, замест 8000 /у апошнім абзацы/ трэба чытаць: 800.

Рэдактар С т р а ц і л а т .

Мастак Я к а ў .

Часопіс "Праваслаўная думка" не з'яўляецца органам афіцыйных царкоўных уладаў і адлюстроўвае думку незалежнае рэдакцыі.

Бясплатна. Нумар выдадзены коштам рэдактара.

Наклад 10 000 асобнікаў.

Ахвяруйце грошы ў фонд выданьня.